# наша свабода

№31(118) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

23 САКАВІКА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


стар.7



Мандаты БНР

# Зварот да народу Беларусі ў 83-ю гадавіну БНР

***Дарагія грамадзяне Беларусі!***

25 сакавіка 1918 году ў Менску Трэцяй устаўнай граматай была абвешчаная незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларусь абвяшчалася Незалежнай і Вольнай Дзяржавай. Ідэаламі БНР сталі свабода, мір, справядлівасьць — блізкія кожнаму жыхару сёньняшняй Беларусі.

Утварэньне БНР падтрымалі лепшыя сыны нашага народу. Абвяшчэньне незалежнасьці вітаў Янка Купала. На зьмены, на лепшае жыцьцё спадзяваліся беларускія рабочыя й сяляне. Аднак супраць самавызначэньня беларускага народу выступілі кайзэраўскія нямецкія войскі й расейскія бальшавікі. Гэтыя сілы задушылі маладую Беларускую Народную Рэспубліку.

Аднак ідэі дабра й справядлівасьці не перасталі жыць у нашым народзе. Сёньня Беларусь мае незалежнасьць, і нашыя хлопцы ня гінуць у аўганскіх ці чачэнскіх гарах. Гэта — заслуга Акту 25 сакавіка. Захаваць незалежнасьць, якая дасталася беларусам дарагім коштам — значыць забясьпечыць будучыню нашых дзяцей. Бальшыня беларусаў ня хоча жыць так блага, як зараз. Кожны цьвярозы чалавек бачыць, што гэтая ўлада існуе толькі дзеля сябе: крадзе, хлусіць, забівае. Кожны жыхар Беларусі прагне пераменаў да лепшага. І гэты год можа стаць пераломным у гісторыі нашай краіны. Сёлета выбары новага прэзыдэнта, і толькі ад нас залежыць нашая будучыня.

Незалежнасьць нашай краіны, нашага дому — гарантыя міру, стабільнасьці й дастатку. Арганізацыйны камітэт заклікае вас далучыцца да сьвяткаваньня 25 Сакавіка — Дня Волі. Разам мы зробім Беларусь шчасьліваю.

**Нацыянальны арганізацыйны камітэт сьвяткаваньня Дня Волі**




## Магчымы кандыдат з'язджае ў Бялград

*Былы начальнік Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі Уладзімір Мацкевіч атрымаў новае прызначэнне. Ён стане новым амбасадарам Беларусі ў Югаславіі.*

27 лістапада 2000 года У.Мацкевіч быў зняты з пасады ўказам Аляксандра Лукашэнкі — нібыта за кепскае расследаванне «гучных справаў» — разам з Дзяржаўным сакратаром і генеральным пракурорам. З таго часу з'яўляліся розныя паведамленні пра далейшыя лёс Уладзіміра Мацкевіча, звесткі былі супярэчлівымі: ці то ён сядзіць пад хатнім арыштам, ці то з'ехаў на адпачынак у Маскву...

Расійская газета «Сегодня» ў пачатку года паведаміла, што кандыдатура генерал-лейтэнанта У.Мацкевіча разглядаецца цяпер Крамлём у якасці аднаго з альтэрнатываў А.Лукашэнку на восеньскіх прэзідэнцкіх выбарах. Маўляў, чалавек «свой», са спецслужбаў, ужо некалькі гадоў асабіста знаёмы з расійскім прэзідэнтам Уладзімірам Пуціным — яшчэ з часоў, калі той займаў пасаду дырэктара Федэральнай службы бяспекі. Гэтая інфамацыя не была пацверджаная ані абвергнутая ні Масквой, ні Мінскам.

Насуперак гэтай версіі з'яўлялася інфармацыя, што Уладзімір Мацкевіч сам на выбары ісці не хоча, але гатовы ўзначаліць перадвыбарны штаб Леаніда Сініцына, колішняга паплечніка Аляксандра Лукашэнкі, былога кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі і былога віцэ-прэм'ера.

Цяпер, калі стала вядома, што У.Мацкевіча пасылаюць беларускім амбасадарам у Бялград, мы звязаліся з ім, каб пацвердзіць або абвергнуць звесткі пра ягонае прызначэнне. Вельмі нешматслоўна Уладзімір Аляксандравіч пацвердзіў нам, што сапраўды даў сваю згоду.

*Заканчэнне на стар.3*

# Бенефис профессора госбезопасности

*Интерес к новой концепции национальной безопасности, которую разработал белорусский Совет безопасности, явно преувеличен. Ничего оригинального в ней не содержится. Это стало ясно после встречи заместителя госсекретаря Совбеза Станислава Князева с журналистами.*

Свою первую пресс-конференцию в Национальном пресс-центре заместитель госсекретаря Совбеза генерал-майор С.Князев решил построить в форме лекции. Видимо, сказалась привычка видеть перед собой дисциплинированную и молчаливую аудиторию. Перед приходом в Совбез генерал возглавлял учебное заведение — Институт национальной безопасности (бывшие Высшие курсы КГБ СССР). Как известно, в нем куются кадры для силовых структур и МИД Беларуси.

В каком духе, можно предположить по выступлению профессора права С.Князева, возглавлявшего накануне прихода А.Лукашенко к власти военную контрразведку КГБ Республики Беларусь. Что с ним сделал придя к власти и почему первый белорусский президент — отдельная история. Отметим лишь, что после назначения С.Князева заместителем госсекретаря СБ, в официальной информации почему-то посчитали вспомнить и такую веху его биографии, как работу руководителем службы безопасности торгового дома «Немига».

Рассказывая присутствовавшим в пресс-центре о новой концепции национальной безопасности, текст которой, как оказалось, разослан и обсуждается в многочисленных госструктурах, но не широкой общественностью, С. Князев успел сделать ряд довольно существенных заявлений. Если профессор не оговорился, то авторы новой концепции, в том числе и он сам, признают приоритет «наших национальных особенностей». О приоритете соблюдения обязательств в области прав и политических свобод граждан, которые добровольно взяла на себя и Беларусь, что зафиксировано в соответствующих международных документах, профессор как-то ничего не сказал. Может быть потому, что изменилась международная обстановка в мире и новые реалии как раз и призвана отобразить новая концепция. Кстати, аналогичный документ для России предусматривает целый перечень угроз. Как внешних, так и внутренних. Судя по выступлению С.Князева, примерный перечень угроз касается и Беларуси. Но главной все же для нее является угроза со стороны *NATO*.

*Окончание на стр.3*

# З нараў — у «Патыё-піцу»

Як ні працівіліся гэтаму беларускія ўлады, сябры незарэгістраванага маладзёжнага руху «Зубр» 21 сакавіка сустрэлі-такі свайго сябра Антона Цялежнікава пасля пятнаццацісутачнага арышту. Нагадаем, Цялежнікаў быў затрыманы падчас разгортвання насупраць рэзідэнцыі Лукашэнкі на вуліцы К.Маркса расцяжкі «Выкрадальнікаў людзей да адказу!» 5 сакавіка. Тэрмін ягонага зняволення скончваўся ў 15.30, але ўжо а 14-ай гадзіне каля спецпрыёмніка-размеркавальніка на вуліцы Акрэсціна сабраліся сябры «Зубра» — каля трыццаці чалавек — з кветкамі, шампанскім і падарункамі для вязня. Але прыкладна ў 15.20 з-за брамы спецпрыёмніка выйшаў ахоўнік і паведаміў прысутным, што Цялежнікава ў будынку няма, бо яго зранку вывезлі на працу і вызваляць будуць менавіта адтуль.



Ведаючы каварства беларускіх міліцыянтаў у падобных выпадках, «зубры» не спяшаліся адыходзіць ад сцэнаў акрэсцінскай вязніцы, а раздзяліліся папалам. Адна частка паехала ў горад, а другая засталася на месцы. Міліцыянты на Акрэсціна нерваваліся з прычыны прысутнасці каля вязніцы «зуброў» і раз-пораз адзін з іх выходзіў і прасіў не пісаць нічога на турэмных сценах.

А тым часам Антон Цялежнікаў быў вызвалены роўна ў 15.30 з месца, дзе ён працаваў. Праз некаторы час яго і сустрэла група сяброў. Яны павялі хлопца ў лазню, а потым разам рушылі на пачастунак у «Патыё-піцу». Антон Цялежнікаў поўны аптымізму і з добрым настроем збіраецца працягваць сваю дзейнасць. Яго не запужаў арышт на 15 сутак, тым больш, што ён за час дзейнасці ў палітыцы быў ужо не першы. Учора Антон накіраваўся да сябе на ў горад Барысаў.

**Віктар СЕВЕРЦАЎ**

## НАВІНЫ

■ **У студзені гэтага года аб'ёмы вытворчасці гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў у Беларусі ў параўнанні з леташнім студзенем зменшыліся больш як на 10%.** А аб'ёмы продажу такой прадукцыі ў студзені 2001 года скараціліся на 22%. Разам з тым запасы алкаголю на складах складаюць ужо 411 тысячаў дэкалітраў.

■ **Паводле апытання, праведзенага мінскім НДІ сацыяльна-эканамічных і палітычных праблемаў, 42% жыхароў сталіцы не хочуць займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю.** 7% гэты занятак кінулі, 6% займаюцца прадпрымальніцтвам зараз, а 20% хочуць арганізаваць сваю справу.

■ **Прэзідэнт Міжнароднага алімпійскага камітэта Хуан Антоніо Самаранч не прыняў запрашэнне ўзяць удзел у Алімпійскім сходзе з нагоды 10-годдзя Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі.** Пры гэтым кіраўнік паабяцаў наведаць Беларусь калі-небудзь у іншы раз. Між тым, з нагоды юбілею беларускага НАКа Х.-А. Самаранч падорыць яму мікрааўтобус «Мерседэс».

■ **21 сакавіка на паседжанні Магілёўскага гарвыканкама было аб'яўлена, што паводле праграмы тэлефанізацыі горада да 2005 года, кожная магілёўская сям'я займее тэлефон.** Зараз у Магілёве на 100 чалавек прыпадае 30 апаратаў, праз 5 гадоў іх мусіць быць ужо 37. Між тым, на сённяшні дзень насельніцтва і прадпрыемствы вінныя сувязістам вобласці 1,4 мільярда рублёў.

■ **Міністэрства транспарту і камунікацыяў вызначыла пераможцаў у конкурсе на «Лепшы аўтамабіль 2000 года».** У намінацыі «Лепшы аўтобус» пераможцам стаў гарадскі аўтобус МАЗ-103, выраблены Мінскім аўтазаводам. «Лепшым аўтамабілем-самазвалам» сталі машыны МАЗа і Мінскага завода колавых цягачоў. А вось на намінацыю «Самы зялёны аўтамабіль», то бок, экалагічна чысты, нават не было ніводнай заяўкі.

■ **Да канца 2001 года мяркуецца завяршыць рэстаўрацыю аднаго з карпусоў Полацкага калегіума іезуітаў, збудаванага ў 18-19 стагоддзях.** На гэта будзе выдаткавана 305 мільёнаў рублёў. Усяго ж сёлета на праведзенне разнастайных рэстаўрацыйных работ па чатырох дзесятках помнікаў архітэктуры будзе патрачана 1,5 мільярда рублёў. У будынку рэстаўраванага корпуса калегіума размесціцца карцінная галерэя.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1320

# Бенефис профессора госбезопасности

*Окончание, начало на стр.1*

Особо ее стало ощущать нынешнее руководство Беларуси после косовского конфликта, приведшего к бомбардировкам Югославии. По словам заместителя госсекретаря СБ, нельзя не учитывать то, что после корректировки натовской доктрины отныне позволяется применять силу и за географическими пределами альянса. Как правило, после таких констатаций следуют заявления, что военно-политический союз с Россией, как раз и призван от такого рода потенциальных угроз защитить Беларусь. Однако, С.Князев заявил, что такого союза не существует. А доказать существование российско-белорусской воинской группировки, оказывается, никто не сможет. Так говорил профессор С.Князев. А что говорил по этому поводу главнокомандующий белорусскими вооруженными силами, он уточнять не стал. Оно и понятно. Как он сам напомнил некоторым журналистам, главу государства надо уважать.

Наиболее часто упоминал бывший шеф военной контрразведки *NATO* и США. От его некоторых пассажей создавалось впечатление, что генерал тяготится теоретической работой в Совбезе и скучает по оперативной. Трудно чем-то другим объяснить неожиданное прямое обращение к присутствовавшим сотрудникам посольства США, которых бывалый контрразведчик публично пытался уличить в хорошем владении русским языком и нарочитом использовании при этом переводчика. Журналисты расценили такое поведение генерала как дешевый финт для слушателей-курсантов.

Вообще-то бенефис одного из представителей нового руководства Совета безопасности оставил довольно странное впечатление. Безусловно, государство нуждается в ясности своих приоритетов. В том числе и в вопросах обеспечения национальной безопасности. Порою трудно объяснить причины секретности, в которой поспешно была создана новая концепция национальной безопасности Беларуси. К примеру в России, пусть худо-бедно, но такой документ публично обсуждали и критиковали. А тут, как-бы побыстрее отрапортовать о проделанной работе, которую можно спутать и с иммитацией. Не оставил профессор госбезопасности у присутствовавших ощущения, что такой документ с приоритетом « наших национальных особенностей» жизненно необходим народу Беларуси. А что касается власти, то справедливой остается формула: истинное лицо власти не то, которое она показывает, а то, которое скрывает.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

# Оргазм генерала Сивакова

Марина Коктыш, журналистка газеты «Народная Воля», взяла интервью у генерал-лейтенанта Юрия Сивакова, бывшего министра внутренних дел Республики Беларусь. В отличие от привычных нам полупустых «бесед за чашечкой кофе», когда журналист преисполнен чрезмерного пиетета к собеседнику и позволяет тому безудержно врать по всем поводам, это интервью, пожалуй, делает из генерала Сивакова облупленное яичко. Вот он перед нами весь как на ладони: противоречивый, запутавшийся, слабый, не шибко грамотный, ищущий сочувствия и рассуждающий прямолинейно, как в бане, среди своих. Вместе с тем ощущается, что были когда-то у Юрия Сивакова и здоровое основание, и самолюбие, и мужской характер, но перепетии жизни уже в самом начале карьеры сделали из него объект для употребления. Укатали сивку крутые горки. Лейтмотив его жизни: «Мы все должны быть преданы *государю* (!) и Отечеству».

*И это действительно так.* В 1986 году Юрий Сиваков служил одним из руководителей ликвидации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС в Беларуси. Я был в это время в тридцатикилометровой зоне командиром взвода «партизан», поэтому хорошо прочувствовал организаторские таланты, гуманизм, дальновидность и другие способности нашего героя и его ближайших соратников. Этих людей горячо проклинали ликвидаторы. За что? Например, *был приказ делать утреннюю* зарядку с пробежками на «свежем» воздухе (это в двадцати километрах от взорвавшегося и дымящегося реактора!). Или принималось решение о занижении уровней радиации при записи в индивидуальные карточки. Не было ни исправных дозиметров, ни средств защиты, ни чистых матрацев, ни нормального питания. Вместо положенных двух недель нас держали в зараженной зоне шесть месяцев. Сиваков и сиваковцы старались всеми силами угодить начальству за счет нашего здоровья и жизней. Они служили таким образом своему Отечеству, не забывая при этом и о себе. Срок пребывания в зоне старших офицеров исчислялся двумя-тремя неделями, после чего они благополучно отбывали получать привилегии ликвидаторов. Чего они только ни обещали нам по возвращении! И во всем обманули. Ни квартир, ни льгот, ни денег... Настоящими были коммунистами, честнейшими офицерами, порядочнейшими людьми, ничего не скажешь.

Я понимаю нынешнего Сивакова. Бессонница его не мучает, а вся жизнь – извращенная преданность «государю» и больше ничего. А от такого занятия радости у нормального мужчины не бывает. На вопрос журналистки : «Какая самая большая радость на вашей работе?» Сиваков отвечает: «Радость – это удел жизнерадостных рахитов... Есть удовлетворение. Оргазм». Откровеннее, пожалуй, не скажешь.

**Александр ДУБРАВИН**

# Нават зброю не можам зрабіць...

«Беларускі вытворца танкаў наўрад ці знайшоў новых пакупнікоў, пасля таго, як іхні танк грахатаў, шыпеў, а пасля паламаўся, перад вачыма важных гасцей».

Гэтыя радкі з паведамлення *Associated Press* як нельга лепш характарызуюць «поспехі» Беларусі на міжнароднай выставе ўзбраенняў *IDEX*'2001, што скончылася ўчора ў Абу-Дабі, Аб'яднаныя Арабскія Эміраты.

А пачыналася ўсё так добра... У выставе бралі ўдзел 18 беларускіх прадпрыемстваў і ўстановаў, дэлегацыю ад Беларусі на выставе ачольваў сам міністр абароны генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў.

«Ізюмінкай» беларускіх прапановаў мусіла стаць баявая разведвальна-дыверсійная машына 2Т, якая выстаўлялася пад рамантычным імем *Stalker* (ад англійскага *to stalk* – пераследаваць). Гэтая машына некалькі гадоў распрацоўвалася унітарным прадпрыемствам «Мінатор-сервіс» як тэхніка, што не мае аналагаў у свеце. Увосень мінулага года яна была ўрачыста прэзентаваная публіцы.



Эксперты расхвальвалі 2Т з усіх бакоў, адзначаючы яе надзвычайную зручнасць для апэрацыяў на Блізкім Поўдні. Машына здольная развіваць хуткасць да 95 км/г пры запасе ходу ў 1.000 км, ёй кіруе экіпаж з трох чалавек, яна мае стабілізаваную 30-мм гармату і 7,62-мм кулямёт, прыборы начнога бачання і лазернага навядзення...

Але ўсяго гэтага госці выставы не змаглі ацаніць. Бо менавіта 2Т была «героем» паведамлення *Associated Press.* Журналіст, які пісаў паведамленне, памылкова назваў машыну «танкам».

Дарэчы, як паведамляюць дасведчаныя крыніцы, беларуская армія ўжо планавала замовіць першую партыю 2Т для беларускага войска – 30 машынаў.

Зрэшты, у 2Т увогуле нешчаслівы лёс. Па нашых звестках, менавіта яе вёз прадаваць у Лівію ўвосень мінулага года Аляксандр Лукашэнка. Але не пашанцавала – дэлегацыя расійскай Дзярждумы апярэдзіла беларускага кіраўніка літаральна на некалькі дзён і, паводле неафіцыйнай інфармацыі, паспела заключыць кантракт на пастаўку ваеннай тэхнікі на 100 мільёнаў доларуаў.

2Т у першую чаргу рабіўся для больш заможных кліентаў – арабскіх краінаў з Персідскага заліву. Гэтыя дзяржавы надзейна забяспечваюць сябе, гандлюючы нафтай. Вось толькі некалькі прыкладаў таго, што яны могуць сабе дазволіць.

Агенцтва АР паведамляе, што летась ААЭ размясцілі на амерыканскім заводзе *Lockheed Martin* замову на 80 знішчальнікаў F-16. Гэтая замова вартая многіх мільярдаў доларуаў і прадстаўляе сабой адну з найбуйнейшых здзелак у свеце на рынку зброі. Падчас *IDEX*'2001 з'явіліся паведамленні, што ААЭ таксам плануе набыць толькі ў адной амерыканскай фірмы сотні ракетаў класа паветра-паветра і паветра-зямля для F-16, здзелка таксама на мільярды доларуаў. Але вядома таксама, што перамовы вядуцца і з іншымі. Вядома таксама, што султанат Аман пажадаў павялічыць выдаткі на абарону на 38% і замовіць пэўную колькасць F-16. Два тыдні таму Іран падпісаў пагадненне з Расіяй аб пастаўках зброі на 7 мільярдаў доларуаў...

«Краіны Персідскага заліву набываюць каля 20% усёй зброі, *што прадаецца ў свеце»,* – *заяўляе* Пол Бівер, прэс-сакратар *Jane's Information Group* – кампаніі, якая выдае вельмі паважаны тыднёвік на абаронную тэматыку *Jane's Defense Weekly.* – Летась свет патраціў 81,8 мільярда доларуаў на зброю, мы мяркуем, што на працягу бліжэйшых пяці гадоў гэтая сума будзе штогод павялічвацца на 2%».

Такім чынам, сваім правалам на выставе ўзбраенняў Беларусь не толькі пакінула кепскае ўражанне пра якасць сваіх вырабаў, але і, хутчэй за ўсё, страціла выгадных кліентаў.

На сённяшні дзень, відаць, можна ўжо гаварыць пра крызіс беларускага гандлю зброяй. Беларусь не мае што прапанаваць кліентам. «Халява» ў выглядзе танкаў і іншай зброі, што засталася з савецкіх часоў, скончылася, а каб вырабляць новую тэхніку сусветнай якасці, неабходныя вялікія грошы, якіх «абаронка» даўно не атрымоўвае.

Сродкі ж ад ранейшага паспяховага гандлю ваеннай тэхнікай падалі ў шматлікія пазабюджэтныя фонды, пракантраляваць дзейнасць якіх беларускае грамадства не можа ўжо колькі гадоў.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Магчымы кандыдат з'язджае ў Бялград

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Афіцыйныя крыніцы паведамляюць, што Югаславія ўжо даслала агрэман (дакумент аб згодзе) на прызначэнне У.Мацкевіча амбасадарам. Застаецца яшчэ ягонае зацвярджэнне Саветам міністраў і кіраўніком дзяржавы.

Уладзімір Мацкевіч, безумоўна, *шмат ведае і пра «гучныя справы»* аб знікненнях вядомых у Беларусі асобаў – Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага. Таму А.Лукашэнку было няпроста пакідаць без увагі такога чалавека. Некалькі месяцаў доўжылася «выпрабаванне трываласці» 54-гадовага генерала. Але ён нічога не сказаў ні пра знікненні, ні пра іншыя «цёмныя справы», што робяцца ў калідорах КДБ. Таму ў якасці сінекуры атрымаў прэстыжную пасаду амбасадара.

Варта зазначыць, што, па нашых звестках, у выніку хваробы У.Мацкевіча некалькі гадоў таму яму давялося рабіць складаную аперацыю ў Германіі. Дакладна невядома, хто аплачваў дарагое лячэнне тагачаснага шэфа КДБ, але магчыма, што гэта было зроблена або з дзяржбюджэту, або, што яшчэ больш верагодна, з якога-небудзь пазабюджэтнага фонду А.Лукашэнкі. Тады У.Мацкевіч сапраўды можа казаць, што абавязаны беларускаму кіраўніку сваім жыццём. І тады ягонае маўчанне і нежаданне стаяць на шляху кандыдата А.Лукашэнкі цалкам вытлумачальнае.

Дарэчы, адпраўляючы У.Мацкевіча ў Бялград, беларускі кіраўнік гарантавана выводзіць яго з ліку ўдзельнікаў прэзідэнцкай гонкі – у любой якасці.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Лукашенко в поле зрения Америки

*Надежды нынешнего руководства Беларуси на то, что администрация Дж. Буша будет меньше, чем предыдущая, интересоваться зарубежными проблемами, оказались иллюзиями.*

Судя по некоторым заявлениям тех, кто будет формировать нынешнюю внешнюю политику США, подходы к ряду внешнеполитических проблем даже ужесточатся. В частности, к России и ее стратегическим союзникам. А на сегодняшний день ее единственным союзником на всем земном шаре считают Беларусь. Как известно, за годы правления Лукашенко, она стала одной из самых антиамериканских стран. Правда, неприязненное отношение к США больше демонстрирует сам правитель, чем собственно белорусские граждане.

Можно считать, что первым сигналом сохраняющегося внимания к режиму Лукашенко стал визит в Минск заместителя помощника госсекретаря США по вопросам СНГ Джона Пернела и начальника управления по делам Украины, Молдовы и Беларуси Грега Перета. Важно отметить, что инициатива проведения обмена взглядами с представителями официального Минска принадлежала американцам. Они имели возможность лично познакомиться с министром иностранных дел Михаилом Хвостовым и первым заместителем главы президентской администрации Владимиром Заметалиным. Почему-то белорусская сторона явно не стремилась афишировать встречу гостей из Вашингтона с госсекретарем Совета безопасности Уралом Латыповым. Представляется очевидным, что именно на ней были обозначены те пределы, в том числе и временные, в которых будут развиваться белорусско-американские отношения в ближайшее время. Конечно, определенное любопытство у американцев могло вызвать знакомство с Владимиром Заметалиным, который предложил строить отношения «с чистого листа». Надо так понимать, что он призвал забыть все негативное, накопившееся обеих сторон друг к другу. Но в отношениях между США и Беларусью были и позитивные моменты. Кстати, не кто иной, как сам В. Заметалин в свое время довольно успешно вместе с американцами и другими претворял в жизнь, например, соглашения по сокращению вооружений. Авторитету и доверию к суверенной Беларуси в мире способствовало и решение о добровольном отказе от ядерного оружия, доставшегося ей от развалившегося Советского Союза. Есть немало других примеров успешного сотрудничества различных ведомств двух стран. В общем, видимо, не стоит так уж одноцветно смотреть на недолгую историю белорусско-американских отношений, которая якобы требует продолжения «с чистого листа». Были бы желание и понимание. Трудно сказать, почувствовали ли их представители госдепартамента, беседуя с человеком, который является личным связным Лукашенко с Саддамом Хусейном. Помнится, после беседы с В.Заметалиным так называемая европейская парламентская Тройка отметила такую определяющую черту лукашенковского чиновника, как склонность к монологам. Может быть и нынешние высокопоставленные гости из-за океана стали их свидетелями. Как считают в оппозиции, какими-бы впечатлениями ни одарил гостей один из идеологов режима, одно очевидно — они увидели не маску, а лицо проблемной для мирового сообщества власти.

В своем итоговом заявлении Джон Пернел и Грег Перет отметили большую ценность в знакомстве с белорусской действительностью, которую им оказали встречи и с неправительственными, оппозиционными структурами. Большинство из них представляли интересы той, примерно одной трети электората, которая, по данным социологических исследований, ни в коем случае не будет голосовать за Лукашенко. Оценка потенциала этих сил также входила в задачу прошедшего визита. Как отметил один из участников прошедших встреч, бывший заместитель министра иностранных дел Андрей Санников, пожалуй, впервые за последние годы, на столь высоком уровне белорусские власти решили принять представителей внешнеполитического ведомства США. Есть основания полагать, что внимание к режиму Лукашенко со стороны новой администрации в Вашингтоне даже усилится.

Впредь никаких авансов с ссылками на трудности переходного периода американцы официальному Минску давать не будут. Что касается якобы расхождений по белорусскому вопросу у США с европейскими союзниками, то они могут носить лишь тактический, а не стратегический характер. О таком положении нынешнему руководству Беларуси давали понять неоднократно. И на различных уровнях.

Во время своего визита высокопоставленные представители госдепартамента США провели одну встречу, про которую государственным СМИ и вовсе было велено не упоминать. Как известно, Дж. Пернел и Г. Перет встречались и с аккредитованными в Минске европейскими дипломатами. По неофициальной информации, у гостей из Вашингтона состоялась отдельная встреча в российском посольстве. Это может свидетельствовать о том, что американцы способны учитывать реальность и признают большое значение российского фактора в сложившейся ситуации с Беларусью. Можно напомнить, что и с европейской парламентской Тройкой, недавно посетившей Минск, впервые отдельно встречался российский посол Вячеслав Долгов. Конечно, активность посла можно расценить и как отеческую заботу о судьбе стратегического союзника. Но можно воспринять и как признание Россией проблемы, которую связывают с личностью Лукашенко.

Во время всех без исключения прошедших встреч американцами настойчиво повторялась мысль о том, что белорусские власти стоят перед выбором, который будет иметь исторические последствия для будущего Беларуси. Именно будет, а не может иметь. И перед ней открывается уникальная возможность заложить в течение следующих нескольких месяцев условия, которые позволят Беларуси вновь занять подобающее ей место в евроатлантическом сообществе.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

## АКБ «Пошук» выдзелена 500 мільёнаў

Нацыянальны банк Беларусі выдзеліў акцыянернаму камерцыйнаму банку «Пошук» у выглядзе крэдытных рэсурсаў 500 мільёнаў беларускіх рублёў.

Сродкі былі выдадзеныя «Пошуку», які трапіў у крызісны стан, у якасці падтрымкі на льготных умовах. Нацбанк наважаны і далей дапамагаць гэтаму банку крэдытнымі рэсурсамі з такім разлікам, каб да канца 2001 года ён пачаў нармальна функцыянаваць, выконваць усе неабходныя нарматывы і атрымаў бы ліцэнзію на прыцягненне новых укладаў насельніцтва.

Нацбанк набыў кантрольны пакет акцыяў АКБ «Пошук» у канцы 1999 года і ў рамках праграмы па санацыі гэтага праблемнага банка выдаў яму льготны крэдыт у памеры 1 трыльёна старых (недэнамінаваных) рублёў. Было таксама прынятае рашэнне аб рэструктурызацыі даўгоў перад укладчыкамі «Пошука», якіх каля 6 тысяч. На той момант запазычанасць «Пошука» па валютных укладах насельніцтва складала каля 10 мільёнаў долараў ЗША.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН**

## Сораса прымушаюць сыходзіць з Расіі



Фонд фінансіста і мецэната Джорджа Сораса вырашыў перапыніць выплаты па грантам у Расіі на 2001 год. Гэта значыць, што сотні прафесараў і настаўнікаў, даследчыкаў і студэнтаў не атрымаюць сёлета 1,5 мільёна долараў дапамогі на навуковыя мэты. Прычына – падатак у памеры 35,9%, сплаты якога расійскія ўлады патрабавалі ад фонду.

Нагадаем, што ў 1997 годзе амаль аналагічная сітуацыя адбылася ў Беларусі. Толькі тады ўлады абавязалі Беларускі Фонд Сораса сплаціць падаткі ў памеры 3 мільёны долараў за ўсе чатыры гады, што Фонд працаваў у Беларусі. За гэты час ён паспеў выдаць грантаў на 13 мільёнаў долараў, маючы пры гэтым паперу аб вызваленні ад усіх падаткаў. Пасля дзіўнага рашэння беларускіх уладаў Сорас палічыў за лепшае пайсці з краіны, бо не жадаў выдаткоўваць грошы бюджэту Беларусі.

Расія аказалася больш «гуманнай» – яна не патрабуе падаткаў з сумаў, што былі сплачаныя раней. Аднак цяпер улады спасылаюцца на другую частку новага Падатковага кодэкса, якая пачала дзейнічаць з 1 студзеня 2001 года. Паводле яе, арганізацыі, якія праводзяць індывідуальныя выплаты фізічным асобам, мусяць сплачваць сацыяльны падатак у памеры 35,9%.

За шэсць гадоў працы Фонду Сораса ў Расіі 80 мільёнаў долараў пайшлі на індывідуальныя гранты для перспектыўных спецыялістаў.

Тым часам, учора кіраўнік Расійскага фонду Сораса Кацярына Гяніева паведаміла, што фонд не збіраецца прыпыняць сваю працу ў Расіі. Нейкае выйсце будзе знойдзенае і для выплаты індывідуальных грантаў.

**Ірына СТАРЦАВА**

## У Беларусі дэфіцыт пітной вады


Фота Ул.ШЛАПАКА

22 сакавіка адзначаўся Сусветны дзень вады. Гэта адлюстроўвае вастрыню праблемы. Штосутачная мінімальная патрэбнасць у вадзе на чалавека складае 20 літраў. Сёння з дэфіцытам прэснай вады сутыкаюцца болей за 2 мільярды чалавек. У 2025 годзе такі дэфіцыт будзе цяжкай рэальнасцю для бальшыні насельніцтва Зямлі. Па прагнозах палітолагаў, недахоп вады можа стаць адной з галоўных падставаў міжнародных канфліктаў у 21-ым стагоддзі. Асабліва гэта тычыцца Бліжняга Усходу. З велізарных запасаў прэснай вады на планеце чалавеку даступныя толькі 0,3%.

Беларусь у гэтых адносінах была ў найлепшым стане. Але неразумная меліярацыя прывяла да паніжэння ўзроўню падземных водных гарызонтаў, і сёння, як паведаміў на прэс-канферэнцыі намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па гідраметэаралогіі Беларусі Іван Скуратовіч, у рэспубліцы ўзнік дэфіцыт якаснай пітной вады ў асобных гарадах і многіх вёсках.

«Раней пітныя патрэбы насельніцтва Мінска поўнасцю забяспечваліся з артэзіянскіх крыніцаў, то зараз мы вымушаныя скарыстоўваць ваду з адкрытых вадаёмаў», — падкрэсліў Скуратовіч. Адначасна ўзнікла вялікая праблема выкарыстання вады сельскіх калодзежаў з-за іх забруджання нітратамі, аб чым сведчаць замеры санітарнай службы. Таму ўсё большая колькасць сельскіх населеных пунктаў пераходзіць на карыстанне артэзіянскай вадой, што вымагае вялікіх фінансавых выдаткаў. Калі такое становішча не будзе асэнсаванае і не будуць прынятыя меры для захавання нашага галоўнага багацця, Беларусі давядзецца зведаць тыя бедствы, ад якіх пакутуюць людзі ў засушлівых рэгіёнах свету.

**Алесь КАВАЛЕВІЧ**

## Даўгі роўныя гадавым даходам

У два разы больш, чым летась, калгасам і саўгасам Брэстчыны давядзецца рэалізаваць сельгаспрадукцыі, каб у крэдыт закупіць неабходныя гаручазмазачныя матэрыялы (ГСМ), мінеральныя ўгнаенні і сродкі аховы раслін.

Разам з тым сумарны доўг гаспадарак вобласці, без уліку доўгатэрміновых крэдытаў, летась павялічыўся больш чым у 4 разы; у 27% з іх даўгі дасягнулі ад 50 да 100% гадавой выручкі. Пачынаючы з лютага выдзяляюцца дадатковыя сродкі з рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў на закупку мінеральных угнаенняў, аднак пакуль няма грошай на закупку ГСМ. Нават у выпадку выдзялення крэдытаў на гэтыя мэты ў леташніх аб'ёмах калгасы і саўгасы павінны знайсці ўласныя сродкі ў памеры 10 мільярдаў рублёў. З улікам гэтага мясцовыя ўлады прынялі рашэнне аб зборы сродкаў з усіх гасразліковых прадпрыемстваў і арганізацыяў у памеры 1 працэнта выручкі на закупку паліва.

Задачы, пастаўленыя перад сялянамі Брэсцкай вобласці сёлета, спецыялісты ацэньваюць як надзвычай складаныя. Так, запланавана вырасціць і сабраць 1 мільён тон збожжа; не толькі захаваць, але і павялічыць пагалоўе жывёлы і г.д. Спецыялісты аблсельгасхарча лічаць, што многія з іх невыканальныя пры існуючым стаўленні дзяржавы да сельскай гаспадаркі і дыспарытэце цэнаў на ГСМ і сельгаспрадукцыю.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

**ЭКСПРЭС**

## Прогнозы, долги, расчеты

### Группа вкладчиков филиала «Белкомбанка» требует вернуть деньги

Вкладчики подали в горисполком заявку на проведение пикета, который они хотят провести 3 апреля возле здания, где филиал ЗАО «Белкомбанк» снимает офисные помещения. Основное требование вкладчиков — вернуть деньги. В гомельском филиале банка порядка 600 человек имели срочные вклады в иностранной валюте на общую сумму порядка 1,3 млн. долларов, но с осени 2000 года банк не платит проценты и не возвращает вклады.

### С 21 марта ставка рефинансирования в Беларуси составит 70% годовых

В Беларуси вновь уменьшаются базовая ставка рефинансирования и учетная ставка Национального банка. С 21 марта они будут составлять 70% годовых, сообщает Управление информации Национального банка. Такое решение принято Правлением Национального банка страны в соответствии с Основными направлениями денежно-кредитной политики на 2001 год и на основе фактических и прогнозируемых темпов инфляции. Рост потребительских цен в феврале снизился до 3,9 процента, а в январе он составил 4,8 процента.

### После введения в Беларуси экспортной таможенной пошлины на вывоз нефтепродуктов поставки российской нефти в республику сократились

В марте в Беларуси сократился объем нефтепереработки. Всего с начала 2001 года белорусские НПЗ переработали 2.513 тысяч тонн нефти – 93% к аналогичному прошлогоднему периоду. Основной причиной снижения объема переработки углеводородного сырья, как отмечают специалисты, стало снижение с начала месяца поставок в Беларусь российской нефти. Так, с 1 по 13 марта было поставлено 311 тысяч тонн нефти, что составляет 81% от аналогичного прошлогоднего показателя. Эксперты также отмечают, что поставки нефти в Беларусь сократились после введения на территории республики экспортной таможенной пошлины на вывоз нефтепродуктов.

### В минувшем году ПО «Беларуськалий» не дополучило 49 миллионов долларов США валютной выручки

49 миллионов долларов США — такова сумма валютной выручки, которую недополучил в минувшем году один из ведущих белорусских экспортеров, солигорское производственное объединение «Беларуськалий». Производство в Беларуси калийных удобрений в 2000 году составило 93% от уровня 1999-го. Причиной тому, как объясняют специалисты, стала нестабильная (в последние 2 года) ситуация на мировом рынке калийных удобрений, что вызвано значительным сокращением их закупок основными импортерами — Китаем и Индией. Кроме того, в прошлом году значительно увеличились затраты по транспортировке удобрений потребителям. Это привело к неконкурентоспособности белорусских калийных удобрений по цене.

### В Беларусь прибыла самая крупная за последние годы партия гуманитарной помощи

Как сообщили в Белорусском благотворительном общественном объединении «В будущее с надеждой», 12 марта в Беларусь прибыла группа представителей гуманитарной и медицинской программы канадской инициативы «Помощь жертвам Чернобыля». С собой канадцы привезли самую крупную за последние несколько лет партию гуманитарной помощи.

**Андрей КАРПОВИЧ**

# Сегодняшние уроки кубинского ракетного кризиса

Ганс БЕРГСТРОМ,
профессор политических наук Готенбургского университета, главный редактор *Dagens Nyheter*, крупнейшей ежедневной газеты Швеции

*Во многих странах скоро выйдет в прокат новый фильм «Тринадцать дней», посвященный теме кубинского ракетного кризиса. Этот фильм должен посмотреть каждый, и не только из-за его интерпретации прошлого, но ради понимания текущих событий, особенно в свете споров о планах Америки по созданию Национальной ракетной обороны и различных региональных диспутов – между Индией и Пакистаном, Тайванем и Китаем, Северной и Южной Кореей – которые однажды могут перерасти в ядерный конфликт.*



16 октября 1962 года Президент Джон Кеннеди собрал своих ближайших советников в Белом доме. Фотографии с воздуха показали наличие строящихся ядерных ракетных центров на Кубе. Решения, принятые и непринятые в следующие 13 дней, могли привести к ядерной войне. Фильм показывает события этих дней в Белом доме. При создании фильма были использованы аудиокассеты президентства Кеннеди.

После премьеры фильма в Америке Школа правительства в Гарварде организовала обсуждение как фильма, так и самого кризиса. Среди участников были: Роберт МакНамара, секретарь по обороне Президента Кеннеди; Теодор Соренсен, его близкий помощник и составитель речей; Эрнст Р.Мэй, профессор истории в Гарварде, написавший книгу о «Кассетах Кеннеди», и Грахам Аллисон, профессор политических наук в Гарварде. Питер А.Алмонд, продюсер фильма, также присутствовал при обсуждении. Хотя постановка вызвала критику по многим аспектам, тем не менее, собравшиеся согласились, что фильм точно показал проблемы и давление, с которыми столкнулся президент Кеннеди.

Какие выводы можно сделать сегодня на основе кубинского ракетного кризиса? Теодор Соренсен суммировал их следующим образом:

— Хотя советники и играют свою роль в кризисной ситуации, но только Президент владеет абсолютной ответственностью. Большинство советников Кеннеди – военных и гражданских – хотели атаковать Кубу. Трезвый анализ и проницательные вопросы Кеннеди высветили альтернативы этому решению и риск, который необходимо было оценить для определения исхода;

— Необходимо ясно понимать манеру мышления своих оппонентов и держать каналы общения открытыми. Загонять оппонента в угол, не оставляя открытых дипломатических каналов, которые позволяют понимать ситуацию, может оказаться фатальным.

Роберт МакНамара подчеркнул необходимость поставить себя на место своего оппонента. В одном из многих напряженных эпизодов фильма МакНамара объясняет агрессивно настроенному адмиралу, что морская блокада, объявленная Кубе, в основном должна была сыграть роль сигнала Хрущеву о решении Кеннеди, а не как средство остановить какие-либо определенные советские корабли.

Мог ли Кеннеди действовать более хладнокровно? В конце концов, США установили боеголовки возле СССР. Решение Хрущева построить ракетные базы на Кубе отражало эту политику. Но Кеннеди беспокоился о последствиях наличия советских ракет на Кубе для Берлина. Ядерное давление из Кубы могло сделать защиту Берлина более сложной, что и было частью стратегии Хрущева. В конечном итоге, «берлинский кризис был разрешен посредством исхода кубинского ракетного кризиса», отметил историк Эрнст Мэй.

«Скоро будет уже слишком поздно» — таким был основной аргумент, представленный советниками президенту. Они хотели атаковать Кубу, пока ракеты, по их представлению, все еще были на море или на пути на Кубу. Около 180.000 войск США были приготовлены к вторжению; существовали планы о массовой бомбежке, превышавшие по масштабу бомбежку Косово тридцать лет спустя. «Прошло тридцать лет прежде, чем я узнал, — сказал МакНамара, — что в то время на Кубе уже было ядерное оружие: 162 заряда, из которых 90 были тактическим ядерным оружием».

МакНамара получил эту информацию при встрече с Фиделем Кастро. Он задал Кастро три вопроса: 1) знал ли он? 2) если да, то какие рекомендации он дал? 3) каковы были бы последствия для Кубы? Кастро ответил: «Я знал. Я настаивал на использовании ядерного оружия. Я знал, что это приведет к уничтожению Кубы». Кастро, и в большей степени, его сотоварищ Че Гевара, были готовы принести Кубу в жертву как мученика в мировой революционной борьбе!

Так что вторжение могло привести к смерти 80 миллионов американцев и уничтожению Кубы только потому, что правительство Кеннеди не обладало правильной информацией (что скорее является обычной ситуацией, когда лидер должен принять одиночное решение). МакНамара уверен, что вторжение «наверняка» привело бы к советской ядерной атаке США. Поскольку контроль Хрущева над советскими войсками на Кубе был ограничен: самолеты Ю-2, летевшие над Кубой, были сбиты, несмотря на четкие противоположные приказы Хрущева.

Во время обсуждения в Гарварде был поднят один сложный вопрос: что бы случилось, если бы оппонентом был не Хрущев, который действовал вполне рационально на протяжении всего кризиса, а безответственный Саддам Хуссейн или фундаменталист? С распространением ядерного оружия такой риск однажды может стать реальностью. Сегодняшние дискуссии по поводу ограниченного ядерного щита и угрозы ядерного шантажа от нестабильных стран должны быть проанализированы в свете этой ужасной, но вполне реалистичной позиции.


Март, 2001

# Мандаты Беларускай Народнай Рэспублікі

Пётра КРЭЧЭЎСКІ

**Пётра Крэчэўскі (1879–1928) палітычны дзеяч, дэлегат Першага Усебеларускага Кангрэса, сябра Рады БНР. У снежні абраны Прэзідэнтам Рады БНР і выконваў гэты абавязак да скону. У 1921 годзе склікаў Нацыянальна-палітычную нараду беларускіх арганізацыяў з акупаванай Бацькаўшчыны і з-за мяжы, якая асудзіла расійска-польскую змову ў Рызе і пацвердзіла ідэал незалежнае Беларусі. Пётра Крэчэўскі процістаяў бальшавіцкаму ціску ды інтрыгам, скіраваным на ліквідацыю Урада БНР, гэта значыць на зьнішчэньне тагачаснага сімвала беларускай незалежнасці. Ён не прызнаў легітымнасці штучна ўтворанай БССР. Дзякуючы ягонай прынцыповай падставе традыцыя сапраўды незалежнай беларускай дзяржаўнасці, асвечаная імем БНР, не была перапыненая.**

**Публікуемы артыкул Першага беларускага прэзідэнта падаецца ў скароце. Яго галоўныя тэзы не страцілі значнасці і сёння – праз 75 гадоў, як былі выказаныя перад беларускімі студэнтамі ў Празе ў сакавіку 1926 года.**

**Святкуючы Дзень Беларускай Дзяржаўнасці, немагчыма не ўзгадаць святыя імёны тых, хто гэтага дамогся насуперак неспрыяльным абставінам.**

Усебеларускі Кангрэс 1917 году, у ліку каля 2.000 дэлегатаў іменем Беларускага Сувэрэннага Народу, абвесьціў рэспубліканскі лад на тэрыторыі этнаграфічнае Беларусі. Працы сваей Зьезд да канца не давёў і быў разогнаны аружнай сілай насільнікаў – маскоўскіх бальшавікоў, а беларуская тэрыторыя акупавана маскоўцамі. Давясьці справу да канца Кангрэс даручыў выбранай Радзе Зьезду і Выканаўчаму Камітэту, якія, ня гледзячы на бальшавіцкі тэрор, на другі дзень, сабраўшыся ў дэпо Лібава-Роменскай чыгункі, вынясьлі рэзалюцыю, у каторай абвесьцілі сябе насіцелямі сувэрэннай улады Беларускага народу.

Рада Зьезду, папоўненая прадстаўнікамі з мейсцаў, у 1918 годзе перэтварылася ў Беларускі парлямэнт – Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, а Выканаўчы Камітэт — у Раду Народных Міністраў.

У такім выглядзе, на падставе права самаакрэсьляньня народаў, пастановаў Усебеларускага Кангрэсу і абвешчэньня Рады Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году, – была вызнана Беларуская дзяржава – Беларуская Народная Рэспубліка.

З гэтымі актамі лічыліся ня толькі нашы прыяцелі, але і нашы ворагі. Гэта бачна з тых заяваў, якія былі зроблены на перагаворах у Рызе старшынямі расейскай і польскай дэлегацый.

На падставе гэтых заяваў Рыжская ўмова 18 сакавіка 21 году сьцьвердзіла прызнаньне:

«Абодва дамаўляючыяся бакі, згодна прынцыпу самаазначэньня народаў, прызнаюць незалежнасьць Украіны і Беларусі».

Акупанты беларускай тэрыторыі як на Захадзе (палякі), так і на Усходзе (расейцы), прызнаўшы сувэрэннасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, а тым самым і яе законадаўчыя і выканаўчыя органы, без згоды і ў адсутнасьці на Канфэрэнцыі Рады Рэспублікі і Ураду падзялілі паміж сабой Беларусь Рыжскай умовай і сталі шукаць спосабаў набыць нейкіх, хоць і заведама фальшывых, сувэрэнных правоў на тыя тэрыторыі, якіх яны пазбавілі адна другую.



Мінск. Крыжыкам паказаны будынак дэпо Лібава-Роменскай чыгункі, дзе ў снежні 1917 года дэпутаты Усебеларускага з'езда абвясцілі пра Беларускую рэспубліку (сённяшні стан)

Гэты момант у Рыжскай умове зафіксаваны так:

«Расея і Украіна адмаўляюцца ад усякіх правоў і дамаганьняў на землі, размешчаныя на Захад ад граніцы.

Са свайго боку, Польшча адмаўляецца на карысць Украіны і Беларусі ад усіх правоў і дамаганьняў на землі, размешчаныя на Усход ад гэтай граніцы».

Важна адзначыць, што афіцыяльных прадстаўнікоў ад Савецкай Беларусі на Канфэрэнцыі не было, а таму і старшыня расейскай дэлегацыі Іоффе не адважыўся побач з Расеяй і Украінай сказаць, што і Беларусь адмаўляецца ад зямель, што ляжаць на Захад ад Рыжскай граніцы.

Ні Расея, ні Польшча ня мелі права як прэтэндаваць на беларускую тэрыторыю, так і адмаўляцца ад той, іншай часткі не належачай ім зямлі, згодна папярэдняму вызнаньню незалежнасьці і сувэрэннасьці Беларусі.

РСФСР на Усходзе знайшла выхад і, як толькі ўбачыла, што вайна 1920 году з палякамі прайграна, абвесьціла паўторна Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку Беларусь. Улада, утвораная маскоўскімі акупантамі, сама сабой прэтэндаваць на сувэрэннасьць не магла. Тут запанавала дыктатура маскоўскага пралетарыяту над беларускім сялянствам з некаторай дамешкай і нацыянальна-беларускага элемэнту камуністычных напрамкаў. Гэта не была воля народу, а быў прымус акупантаў.

Зусім іначай глядзела на справу Польшча. Страціўшы надзею на граніцы 1772 году, Польшча не хацела адмовіцца ад сувэрэнітэту на падставе гістарычных правоў Люблінскай вуніі 1569 г. на значную частку Заходняй Беларусі, з Менскам уключна. Пілсудскаму і яго спадручнаму у Менску, Ваевудскаму, хацелася атрымаць ад Рады Рэспублікі мандат на сувэрэнітэт у Заходняй Беларусі.

Калі высьветлілася, што большасьць Рады настроена варожа да Польшчы і ні на якіч кампрамісы з Польшчай пайсьці ня можа, тады Ваевудскі, паманіўшы мільёнамі перад палёнафільскай часткай Рады, запатрабаваў расколу Рады. Але настрой у Радзе і паміж беларускім грамадзянствам быў настолькі варожы да Польшчы і перакідчыкаў-радных, што сход Рады 13 сьнежня 1919 году за прысутнасьцю кворума адбыўся бэз палёнафілаў і замест прывітаньня Пілсудскаму выняс рашучы пратэст супроць акупантаў.

Рада БНР не здрадзіла сувэрэнітэту свайго народу і захавала мандаты і права на ўладу.

Новаабранаму Прэзыдыуму Рады былі перададзены вярхоўныя правы Беларускага народу да тае пары, пакуль яны ня будуць мець магчымасьці вярнуцца на Бацькаўшчыну.

Пры такіх варунках нават Старшыня польскай дэлегацыі Домскі ў Рызе ня мог карыстацца заявай Найвышэйшай Рады, падпісанай Іваноўскім, што беларускі народ згаджаецца на культурна-нацыянальную аўтаномію ў Польшчы. Здрада Найвышэйшай Рады стала яснай ня толькі для палякоў, але і самых «Найвышэйшых». Свае мандаты, як нікому непатрэбныя сьведкі абмылак і здрады, прывёз у Рыгу і здаў Радзе Рэспублікі адзін з членаў Найвышэйшае Рады ў 1921 годзе – Цярэшчэнка.

У зьвязку з тым, як з часам умацоўвалася становішча акупантаў беларускіх тэрыторый, і асабліва пасьля прызнаньня «статус-кво» пастановай Амбасадараў 14 сакавіка 1923 г. за Польшчай і прызнаньнем некаторымі з вялікіх дзяржаў Антанты РСФСР, – стала павялічацца смага і на беларускія мандаты.

Старыя способы былі немагчымыя, жыхарства як пад Польшчай, так і ў Саюзе Савецкіх Рэспублік адносілася варожа да акупантаў. Трэба было знайсьці новы спосаб – спосаб раскладу самога Ураду БНР і Прэзыдыуму Рады. Польшча натраўлівала на кампраментацыю беларускіх дзяржаўных устаноў – беларускіх палёнафілаў, РСФСР – камуністаў у Менску і камуніствуючых у Вільні.

2 лістапада 1923 г. Рада і Урад аканчальна пераехалі ў Прагу і там як эмігранты знайшлі поўную падтрымку з боку Чэхаславацкага Ураду.



Мінск. Інтэр'ер будынка, дзе ў лютым 1918 года знаходзіліся Рада і Урад БНР (сёння — Музычны ліцэй на плошчы Свабоды)

У 1925 г. камуністы захапілі ў свае рукі беларускія галоўкі ў Вільні і пачалі націскаць, як мы даведаліся толькі пасьля Берлінскай канфэрэнцыі, на Цвікевіча, патрабуючы здачы мандатаў БНР.

Да самага моманту скліканьня канфэрэнцыі 10 кастрычніка ніхто ня ведаў, што будзе за канфэрэнцыя і хто сапраўды на ёй будзе. Не вядома было нават, на які кошт канфэрэнцыя склікаецца.

Ніхто не сумлеваўся ў тым, што Менск становіцца цэнтрам культурна-нацыянальнай працы ва Усходняй Беларусі, як і прызнаваў у гэтым яго дасягненьня. Але таксама было вядома, што ўся палітычная і эканамічная праца ў Савецкай Беларусі вядзецца чужынцамі, элемэнтам прышлым, нічога супольнага з Беларусьсю ня маючым.

Але партыя РКП, цяпер Усесаюзная, хацела мець мандаты БНР як сувэрэннай установы ня толькі на Усходнюю, але і на Заходнюю Беларусь. Торг з гэтага і пачаўся.

Як крумкачы сядзелі за вуглом прыёмшчыкі мандатаў Ульянаў і Жылуновіч у Берліне, прысланыя з Менску, каб заплаціць сваіх 30 срэбрэнікаў за жывую душу Беларускага народу.

Трудна думаць, каб прадстаўнікі СССР і Менску не бачылі ўсёй авантуры. Усё роўна пры адстаўцы ці нават без адстаўкі пратакол аб ліквідацыі Ураду, а тым барджэй, перадачы мандатаў без зацьверджэньня Старшыні Рады, ніякай вагі мець ня мог і зьяўляўся падлогам і спэкуляцыяй з аднаго боку,

***Рэальнасьць падпарадкоўвае слабейшых, а моцны духам рамантызм змагаецца і накрэсьлівае новые шляхі будучыні.***
***Пётра КРЭЧЭЎСКІ,***
***Першы Прэзідэнт***
***Беларускай Народнай Рэспублікі***

і юрыдычным абсурдам, разьлічаным на несьвядомасьць, калі не сказаць на глупоту, як сябе, так і тых, каму гэтыя пастановы і мандаты гатаваліся.

Атака на Урад БНР пад уплывам камуністаў вялася на Віленшчыне даўно, але дасягнула свайго апагею як раз у часе канфэрэнцыі.



Першая паштоўка БНР з гербамі беларускіх ваяводстваў. 1918 год

У гэты момант былі надрукаваныя агідныя артыкулы, дакараючыя Беларускі Урад куском эміграгтскага чорнага хлеба, запамятаваўшы тое, што адзін пасол у Варшаўскім Сойме меў у месяц больш пэнсыі, як усе чатыры сябры Ураду разам.

Здрадны адыход ад працы асобаў ня можа мяняць Канстытуцыю Рэспублікі. На іх мейсцы як абаронцаў незалежнасьці могуць быць другія людзі.

Наша няшчасьце ў тым, што на працягу ўсёй дзяржаўна-адраджэнскай працы мы на адпаведных становішчах выканаўчай улады бачылі мала сумленных людзей і цяпер яны апынуліся ў варожым стане свайго народу. Людзі, якія ўчора служылі ідэалу незалежнасьці і будавалі сваю палітычную кар'еру, сёньня яе паганяць...

Няма пакуль дзяржавы і няма аружжа бароцца з гэтым злом, але гэта ня значыць, што мы ў роспачы павінны адмовіцца ад сваіх лепшых ідэалаў. Права не ў сіле. Часовая перэмога – ня ёсьць закон на будучыню. Рамантызм ідэі творыць рэальнасьць, а не наадварот. Рэальнасьць падпарадкоўвае слабейшых, а моцны духам рамантызм змагаецца і накрэсьлівае новые шляхі будучыні.

Не апраўдаўшыя народнага даверу рэалісты адыйшлі ў старану ці перайшлі ў варожы стан, а цьвёрды рамантызм ідэі незалежнасьці і яе дзяржаўных установаў жыве далей і будзе жыць, пакуль жыве сама ідэя.



Мінск. Вуліца Ракаўская (у 20-я гады называлася Кастуся Каліноўскага). Жывая сведка тагачасных шэсцяў на плошчу Свабоды

## Ленінска-сталінскай каляінай

*Сталічныя ўлады, прапануючы народу святкаваць Дзень Волі на былым балоце, засведчылі, што свядома ці несвядома, але старанна служаць інтарэсам прарасійскай пятай калоны і захаванню гістарычнай хлусні.*

Абвяшчэнне Беларускай дзяржавы ў сакавіку 1918 года ёсць хрыбет існавання сённяшняй Беларусі. З'яўленне на белы свет БНР адбылося насуперак расійскаму супрацьдзеянню, і было ў першую чаргу актам гістарычнага захавання народа сярод іншых народаў Еўропы. Абразлівы гандаль беларускімі землямі і людзьмі, на які пайшоў ленінскі ўрад, каб пазбегнуць захопу германскімі войскамі расійскай тэрыторыі і застацца пры захопленай уладзе, дзесяцігоддзямі стараліся трактаваць як клопат пра Беларусь. Насуперак ісціне пачатак беларускага дзяржаўнага існавання прывязалі да партыйнага з'езда ў Смаленску, які, на загад ЦК РКП(б), абвясціў сябе камуністычнай партыяй Беларусі. Аднак менавіта папярэдняе існаванне Беларускай Народнай Рэспублікі выклікала да жыцця БССР. І гэтае вымушанае рашэнне прызнаць Беларусь як самастойнае ўтварэнне стала падставай жорсткай помсты, якая цягнецца ўжо восемдзесят гадоў. Усе ўдзельнікі абвяшчэння БНР, апроч некалькіх, каму пашанцавала памерці сваёй смерцю, былі расстраляныя органамі НКУС. Усе прыхільнікі БНР зведалі сталінскія канцлагеры. Сама БНР, яе інстытуты замоўчваліся і вытраўліваліся са свядомасці народа.

Святкаваць падзею, якая адбывалася ў Мінску ў 1918 годзе, магчыма толькі ў тых месцах, якія памятаюць пра гэта. Плошча Бангалор, на якую пасылалі заяўнікаў святочнага шэсця чыноўнікі Мінгарвыканкама, у той час была балотам у 3 вярстах ад Мінска. Камары і жабы — ніхто іншы тут не жыў. У 20-я гады на гэтым месцы была арганізаваная навукова-даследчая Балотная станцыя. Што там рабіць людзям у дзень свята Беларускай дзяржаўнасці?

У Мінску з-за войнаў і непісьменнасці кіраўніцтва засталося няшмат помнікаў архітэктуры нават у гістарычным цэнтры. Але некалькі захавалася, і яны звязаныя з памяццю пра падзеі 1918 года, якія назаўжды ўвайшлі ў нашую гісторыю і застануцца ў ёй насуперак намаганням пятай калоны. Забарона арганізаванага ўшанавання памяці тых падзей на старых вуліцах Мінска – гэта ідэалагічнае вітанне сённяшніх уладаў з памерлай сталінска-бальшавіцкай ідэалогіяй.

Пятрусь КЛІМКОВІЧ

